

# Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Выдаецца са сьнежня 1988. — студзень 1993 г. № 1(36) Кошт 5 рублёў

# «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»

Бальшавіцкую сыстэму першай стала тараніць моладзь. Пачалося зь песьні, зь любові да роднага слова, да сьведчаньняў даўніны. Успалашыліся парторганы, КДБ, міліцыя. Татальнае сачэньне. Напады на кватэры, дзе зьбіраліся пасьпяваць і пагаварыць маладыя. Машыны, сабакі і вадамёты супраць купальскіх вогнішчаў. Злосьць, шаленства і лютая нянавісьць да дзяцей, якія азваліся беларускай мовай і песьняй. А ў выніку перамаглі тыя, што сьмяяліся і сьпявалі. Мілыя, слаўныя хлопцы і дзяўчаты.

Ці была ў нас сьпеўная рэвалюцыя? Была. Толькі не гучэла яна на пляцах сотнямі тысячаў галасоў, як у Латвіі ці Літве, бо пачыналася ў хворым народзе. Народ, якому заняло мову, ня можа сьпяваць. Наша песьня выходзіла з хатаў, з маладых сэрцаў, падымалася з падпольля, зь нізінаў, з далёкіх дарог, ад зруйнаваных муроў, дзе не відаць было кадэбісцкіх вушэй, ня зьвягаў прапагандысцкі брэх.

Наша добрая моладзь ладзіла талаку і танок. Шырылася песьня, гучэла сярод муроў. Тады накіравалі супраць яе ўсіх засьлепленых, усё, што не паддаецца лячэньню ні словам, ні гукам, ні ласкай. Ды дарэмна, аднак, бо:

"Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць".

Так мовіў вялікі паэт. Менавіта наша жывая здаровая моладзь першай пайшла за Пагоняй, першай узьняла наш сьвяты бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяг. Гэта здарылася 30 кастрычніка 1988 года ў полі пад Курапатамі ў акружэньні батальёнаў міліцыі і савецкіх унутраных войскаў. "Жыве Беларусь!" – гучала тады як малітва, як "Ойча наш", як прызнаньне ў каханьні. Вецер і сьнег над дратамі, над мерзлай зямлёй, над вяршынямі хвояў, над Курапатамі... Жыве Беларусь!

"Рушымся, брацьця, хутчэй
У бой з жыцьцём, пакідаючы жах,
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах..."

Хіба можна стрымаць Пагоню? Хто можа запярэчыць рыцару? Угледзьцеся ў гэтыя ўзьнёслыя маладыя прыўкрасныя аблічы. Гэта было ў Вільні праз пару месяцаў пасьля "30-га кастрычніка" на Другім Вальным Сойме беларускіх маладзёжных суполак. Яны сьпяваюць: "Фронт, Фронт, Фронт, ён маё і тваё Адраджэньне..."

Гэй вы, па закутках, у каморах і крамах па-над сьмецьцем дзён, слухайце, Фронт ідзе! Сьвежы вецер веснавы вее над нашай зямлёю. Ніхто не ўцячэ ад ветру, як ніхто не схаваецца ад самога сябе.

Мерна гучаць крокі, важка, днём і ўначы, на зямлі і на небе. Уздымаюцца. Капаюць кроплі на замшэлы бетон. Раз-два, раз-два, раз-два... Трапечуць харугвы –"мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Зянон Пазьняк

## Да 75-х угодкаў Беларускае Народнае Рэспублікі

# Прадвесьне

Сонца ўжо павярнула на лета. І не заўважым, як прыйдзе вясна. А зь ёю – сьвята, вялікае сьвята нашага народу: 75 гадоў таму, напрадвесьні 1918 г. была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Самы час, каб пачаць рыхтаваць сьвята.

Ініцыятыўная група сяброў камісіі БНФ "Адраджэньне" па культуры і гісторыі загадзя прапанавала ўсім партыям, аб'яднаньням, асацыяцыям ды культурна-асьветніцкім таварыствам дэмакратычнага кірунку абмеркаваць, як належным чынам ушанаваць гэтую значную падзею. Іх прадстаўнікоў запрасілі 19 студзеня ў Дом літаратара на паседжаньне Камісіі дзеля ўтварэньня Аргкамітэту сьвяткаваньня 75-х угодкаў БНР.

Алесь Марачкін ды Мікола Купава прапанавалі плян Сьвята. Мяркуецца пачаць яго 19 сакавіка ў Доме літаратара акадэміяй – навуковаю канфэрэнцыяй беларускіх гісторыкаў. 21 сакавіка, а гэта будзе нядзеля, а 12 гадзіне ад пляцу Волі паўз усе мясьціны БНР рушыць шэсьце да помніка Янку Купалу. Да ўгодкаў будуць наладжаны выставы: у Нацыянальным музэі, а таксама ў Палацы мастацтваў – суполкі "Пагоня". Адбудзецца дабрачынны канцэрт беларускіх рок-гуртоў. Абавязкова паедуць дэлегацыі ў мясьціны, зьвязаныя зь дзейнасьцю ўрадаўцаў БНР.

На 25 сакавіка плянуецца ўрачыстая вечарына. Адзіным годным месцам яе правядзеньня прызналі Опэрны тэатр.

Запрошаныя на паседжаньне Камісіі, а сярод іх былі Прэзыдэнт "Бацькаўшчыны" Васіль Быкаў, Старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі Ніл Гілевіч, старшыня акцыянэрнага таварыства "Кросны" Ян Грыб, прэзыдэнт фірмы "Дайнова" Адам Палюховіч, падалі шмат слушных прапановаў. Дырэктар Цэнтральнага Дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва Рэспублікі Беларусі Ганна Сурмач абгрунтавала неабходнасьць паездкі ў Прагу, дзе з 1923 году і да канца Другое сусьветнае вайны знаходзіўся Урад БНР, дзе тады ж, дзякуючы прэзыдэнту Чэхаславацкай Рэспублікі Т.Масарыку, быў створаны беларускі культурны цэнтар і архіў. Спадарыня Сурмач мяркуе, што неабходна выказаць падзяку чэскаму ўраду за гэтае зьдзяйсьненьне і за бясплатнае навучаньне заходне-беларускае моладзі ў Карлавым унівэрсытэце. Гісторык Леў Мірачыцкі нагадаў, што там, у Празе, – магілы Старшыняў Рады Пётры Крэчаўскага ды Васіля Захаркі, а таксама іншых дзеячоў.

Як у Прагу, а ў Вільню, дзе 27-га сакавіка адкрыюць надмагільны помнік братам Луцкевічам, нам трэба абавязкова паехаць.

Былі ўтвораныя рабочая група і Арганізацыйны камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх запрошаных партыяў, аб'яднаньняў, асацыяцыяў ды культурна-асьветніцкіх таварыстваў. Ад іхнага імя рэдакцыйнай групе прапанавана падрыхтаваць зварот да народу Беларусі і лісты ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі ды Савет Міністраў. Ніл Гілевіч дадаў, што пра падзею неабходна шмат пісаць у газэтах, стварыць цыкл перадачаў на радыё і тэлебачаньні, правесьці чытаньні ў ВНУ, каб людзі зразумелі, калі пачалася наша новая дзяржаўнасьць, што была такая БНР, якімі герaічнымі намаганьнямі таго Ураду яна існавала.

Ня ўсе пытаньні былі вырашаны. Прыкладам, засталіся пакуль без адказу: Ці запрашаць гасьцей? Ці запрашаць прадстаўніка Рады БНР?

Пётра Станкевіч.

## Кроніка

Чарговы, трэці зьезд Таварыства Беларускае Мовы імя Ф.Скарыны адбудзецца раней, чым меркавалася – у канцы сакавіка. Такое кампраміснае рашэньне прыняла Рэспубліканская Рада ТБМ, разгледзеўшы патрабаваньне Менскае гарадзкое арганізацыі ТБМ правесьці нечарговы зьезд Таварыства. Па выканкамах Саветаў народных дэпутатаў разасланы ліст за подпісам Ніла Гілевіча, дзе ім (выканкамам) прапануецца ствараць суполкі ТБМ і вызначаць дэлегатаў на зьезд.

Напрыканцы году ў Віцебску пасьпяхова прайшлі сьвяткаваньні 395-х угодкаў наданьня гораду Магдэбурскага права. У праграме была навукова-тэарэтычная нарада "Urbi et orbi. Горад: гістарычна-архітэктурныя й культуралягічныя аспэкты". Віцьбляне запрапанавалі стварэньне асацыяцыі "Стары горад", куды ўвайшлі культурніцкія згуртаваньні Горадні, Берасьця, беларусаў Вільні ды інш. Супрацоўніца БФК Ларыса Міхневіч, ініцыятар гэтай ды іншых віцебскіх беларускіх імпрэзаў, цяпер пляную ўшанаваньне 110-х угодкаў Вацлава Ластоўскага (20 кастрычніка 1883 г., засьценак Калесьнікі тагачаснага Дзісенскага пав.) у Віцебску і ў Мёрах.

Гарадзкі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школаў і клясаў Менска (ГБК) ладзіць практычную канфэрэнцыю "Праблемы навучаньня й выхаваньня ў беларускамоўных клясах і школах (сярэдняя й старэйшыя клясы)". На канфэрэнцыю запрошаныя педагогі-прадметнікі ды адміністрацыя школаў. Прычына скліканьня – непадрыхтаванасьць настаўнікаў да працы ў беларускай школе, састарэлыя праграмы й падручнікі, праблемы тэрміналёгіі. Канфэрэнцыя адбудзецца 13 лютага ў школе № 54.

## Госьці Апазыцыі

Шэраг замежных пасольстваў у Беларусі дзейнічае цяпер у Менску. Усе паслы, акрамя расейскага і кітайскага, па дыпламатычнай традыцыі выявілі жаданьне спаткацца з парляманцкай Апазыцыяй і былі прынятыя кіраўніцтвам Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі.

Нядаўна, за дзень перад уручэньнем даверчых лістоў, Апазіцыю БНФ наведаў пасол Швейцарыі ў Беларусі Рыхард Гэхтэр. Адбылася цікавая размова і абмен інфармацыяй.

21 – 22 студзеня ў Апазыцыі БНФ былі прынятыя журналісты гішпанскай газэты "Эль Паіс", ангельскай – "Файнэншэл Таймс", амэрыканскага часопіса "Таім", нямецкага штотыднёвіка "Ды Вохэ", латышскай газэты "Дыена". Старшыня Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк даў інтэрвію журналістам гэтых выданьняў.

23 студзеня ў Апазыцыі БНФ знаходзіўся Другі сакратар Канадзкага пасольства Пітэр Дж. Бэйтс.

# ЗВАРОТ
## да грамадзянаў Беларусі

Шаноўныя суродзічы! З 29 кастрычніка 1992 году, калі Вярхоўны Савет Рэспублікі не прызначыў дату рэфэрэндуму, праігнараваўшы волю й законнае патрабаваньне больш як 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі й высновы Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме, прайшло ўжо нямала часу.

Мы спадзяваліся, што ў складзе Вярхоўнага Савету, апроч Апазыцыі БНФ, знойдуцца яшчэ дэпутаты, каму не абыякавы лёс Бацькаўшчыны, лёс нашага шматпакутнага народу.

Мы спадзяваліся, што наш народ ня будзе болей маўчаць і прымусіць гэты намэнклятурны сход выканаць Закон Беларусі.

Але гэтага не адбылося. Як паказаў час, нашыя спадзяваньні былі марныя. Вярхоўны Савет не зьмяніў сваіх адносінаў да рэфэрэндуму, чым паказаў, што ён па-ранейшаму прытрымліваецца бальшавіцкае палітыкі гвалту й непавагі да народу й правоў чалавека.

Не пачулі мы, на вялікі жаль, і моцнага голасу пратэсту супраць бесцырымонных дзеяньняў уладаў з боку нашага народу: інтэлігенцыі, прадпрыймальнікаў, рабочых, сялянаў, нібыта гэта іх не датычыцца.

Але, верачы ў сьветлы розум беларусаў, мы зьвяртаемся да Вас, суродзічы, да ўсіх тых, хто хоча бачыць нашую Бацькаўшчыну заможнаю й вольнаю, з заклікам – незалежна ад сваіх палітычных поглядаў падтрымаць намаганьні грамадзка-палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, аб'яднаных у блёк "Рэфэрэндум", і разам зь імі рашуча патрабаваць, каб Вярхоўны Савет урэшце рэшт выканаў законную волю грамадзянаў нашае Бацькаўшчыны.

Жыве незалежная **БЕЛАРУСЬ!**

Беларусы м. Масквы:

Ігар Паўлоўскі, палкоўнік запасу;
Ганна Рыжкоўская, ст. навуковы супрацоўнік;
Алесь Бука, студэнт;
Ганна Бука, студэнтка;
Алеся Бабарэка, кандыдат тэхнічных навук;
Іван Бурсаў, пісьменьнік;
Генадзь Лех, кандыдат тэхнічных навук;
Валянціна Северыненка, педагог;
Якаў Шагідэвіч, навуковы супрацоўнік;
Уладзімер Равіна, вайсковы;
Алесь Курыс, будаўнік;
Янка Курыс, вучань 10-е клясы;
Алесь Каляда, інжынэр;
Мікола Касьянчык, чыгуначнік;
Васіль Астаповіч, палкоўнік запасу;
Уладзімер Акуліч-Казарын, кандыдат тэхнічных навук;
Ніна Каляда, настаўніца;
Віталь Каляда, інжынэр;
Алесь Амялюк, інвалід;
Віктар Іваноў, настаўнік;
Лявон Цагельнікаў, ст. навуковы супрацоўнік;
Віктар Качэргін, дацэнт;
Алесь Казлоў, вайсковы;
Раіса Загрышава, пэнсіянэрка;
Вольга Панкрацьцева, інжынэр;
Алена Балычава, доктарка;
Яўген Шыраеў, доктар тэхн. навук, прафэсар;
Галіна Грыбоўская, крытык, перакладчыца, сябра Саюзу журналістаў Расеі;
Алесь Драянкоў, ст. навуковы супрацоўнік.

19 студзеня 1993 году
м.Масква

# ТЭАТАР АБСУРДУ

Выбары ў Вярхоўны Савет цягнуцца ўжо тры гады. У 1989 годзе Вярхоўны Савет – філія ЦК – прыняў юрыдычна непісьменны і антыдэмакратычны выбарчы закон, каб забясьпечыць перавагу камуністам. Астатняе іх не цікавіла. Вось і расплачваецца грамадзтва за цямноту і эгаізм палітычных мерцьвякоў. Мільёны страчаныя, і вялікія грошы без патрэбы трацяцца надалей.

З 1991 году Народны Фронт спыніў удзел у гэтай фарсавай кампаніі. Народ згубіў давер да Вярхоўнага Савету і перастаў хадзіць на выбары. Кожны хоць трохі разумны павінен зразумець, што ня трэба выставіць кандыдатураў і гуляць у заведама беспэрспэктыўную выбарчую кампанію. Ня трэба марнаваць дзяржаўных грошаў.

Кожны, але не камуністы. 29 лістапада 1992 г. у выбарах удзельнічалі толькі арганізацыі й кандыдаты камуністычнай арыентацыі. Менавіта яны і ператраўляюць у пыл дзяржаўныя сродкі, нібы тая моль.

Вось зьвесткі, якія я ўзяў па 8-й акрузе Заводзкага раёну горада Менска. На кандыдатуру і абсалютна безнадзейную справу дзяржава страціла 395905 рублёў. (Дадзеныя на лістапад 1992 г. Цяпер гэта ўжо паўмільёна). Акрамя таго, ня ўлічана, што пад кандыдатуру было створана 13 участковых камісіяў па 13 чалавек у кожнай, плюс 7 чалавек у акруговай камісіі. Гэтыя 176 чалавек працавалі два дні, якія былі, вядома, аплочаныя. (У сярэднім яшчэ 80.000–90.000 рублёў).

Вядома ж, знайшліся людзі, якія растлумачылі "кандыдатуры" (жанчыне з камітэту "Салдацкія маці" – арганізацыі, што ўваходзіць у камуністычны "Каардынацыйны Камітэт") поўную безвыніковасьць мерапрыемства, нават з улікам надта вялікіх палітычных здольнасьцяў кандыдата. Куды там. Абышлі кожную кватэру, напусьцілі жаласьці, сьлёз. У выніку з 28.000 выбаршчыкаў сабралі 4000 (цётак, пэнсіянэраў, стойкіх яшчэ камуністаў, што сваім ходам прыйшлі на выбары) і ... высадзілі ў паветра паўмільёна.

Гэта толькі ў адной акрузе і толькі за адзін раз. Усе звычайныя людзі даўно зразумелі непатрэбнасьць і нават – з пункту погляду здаровага сэнсу – немаральнасьць удзелу ў гэтых запланаваных стратах. Вярхоўны Савет ня ў стане адмяніць выбарчы маразм. Спыніць яго могуць толькі разумныя прэтэндэнты, не выстаўляючы сваіх кандыдатураў на бязглуздыя выбары. Але ж скажыце ж вы пра тое камуністам. Лягчэй зачасаць на галаве кол. Яны ж "удзельнічаюць у выбарах".

Заведама змарнаваныя грошы? – спытаеце вы. А вось тут якраз, здаецца, і ўвесь сэнс хаваецца. Людзям, што выступаюць супраць незалежнай нашай дзяржавы, супраць беларускае культуры й будучыні, якія паводзяць сябе фактычна як агенты чужой імпэрыялістычнай палітыкі – што ім нашыя дзяржаўныя грошы, змарнаваныя праца і дні. Закон пра выбары дзейнічае? Дзейнічае. Вось, маўляў, працуйце на нас! Маем права. Аплочвайце. Абслугоўвайце. "Коммунистическая идея бессмертна". І сапраўды "бессмертна". Гэтак як бясконцыя глупства і зло. Толькі са злом трэба змагацца. Гэта таксама вечны закон.

Патрэбныя іншыя сапраўдныя выбары па новым выбарчым законе, што вынесены на рэфэрэндум, за які законна выказалася амаль паўмільёна жыхароў Беларусі. Рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму прынятае, пацьверджанае законам і ніякія амаральныя сілы не стрымаюць яго. Набліжаецца крах ашуканцаў і іх прыслужнікаў. А пакуль... Пакуль паназіраем яшчэ за бяздарнай гульнёй, за тэатрам абсурду.

Зянон Пазьняк

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПРА СТУДЗЕНЬСКІ СОЙМ

9 студзеня г.г. адбылося чарговае пасяджаньне Сойму БНФ. Са спавешчаньнем на асноўнае пытаньне парадку дня – "Пра палітычную канцэпцыю й праграмныя палажэньні БНФ" – выступіў Старшыня Фронту Зянон Пазьняк. Ён адзначыў, што пры падрыхтоўцы новай праграмы БНФ мусіць вызначыцца ў палітычнай прасторы. У асноўным усе дэмакратычныя палітычныя партыі выйшлі з БНФ ці ўвесь час крочылі зь ім побач. Мы вызначаем асноўныя аб'яднаўчыя ідэі: адраджэньне, незалежнасьць, дэмакратыя, рынкавая эканоміка. Канцэпцыя, якая аб'ядноўвае палітычныя плыні на гэтай платформе – народніцкая.

Намесьнік Старшыні БНФ прафэсар Ю.Хадыка ў сваім спавешчаньні даў разгорнуты параўнаўчы аналіз трох асноўных плыняў у дэмакратычным руху – лібэральна-дэмакратычнай, сацыял-дэмакратычнай і хрысьціянска-дэмакратычнай, ці, у больш агульным сэнсе, народніцкай, зазначыўшы пры гэтым, што праграмныя прынцыпы БНФ шмат у чым супадаюць менавіта з гэтай, апошняй палітычнай канцэпцыяй.

Гэтую думку разьвіў сакратар Управы Сойму В.Вячорка. Дзякуючы сваёй цэнтрысцкай пазыцыі Фронт мае магчымасьць і надалей застацца аб'яднаўчым рухам зь мяккімі арганізацыйнымі формамі й шырокім сьветапоглядам. Спэцыфічнаю рысай праграмы БНФ, якая мусіць прымацца на III зьезьдзе, павінна быць патрабаваньне маральнасьці палітыкі.

У сваім спавешчаньні намесьнік старшыні БНФ У.Заблоцкі выклаў грамадзка-сацыяльную сутнасьць эканамічнае канцэпцыі БНФ і даў ацэнку сёньняшняму стану беларускай эканомікі.

Па пытаньні дачыненьняў да СНД выступілі народныя дэпутаты З.Пазьняк і Л.Баршчэўскі. Яны паінфармавалі пра сутнасьць падрыхтаванага Статуту СНД і пра яго меркаванае падпісаньне, ацаніўшы гэтую акцыю як спробу аднаўленьня імпэрыі. Было нагадана, што Апазыцыя БНФ яшчэ напачатку мінулага году папярэджвала: СНД – нежыцьцяздольнае ўтварэньне. Фронт ня супраць садружнасьці, але садружнасьці на іншых прынцыпах, прынятых у эўрапейскай супольнасьці. Такім аб'яднаньнем магла б стаць Балтыйска-Чарнаморская садружнасьць.

Дэпутат Вярхоўнага Савету, старшыня Камісіі БНФ па інфармацыі С.Навумчык зрабіў паведамленьне пра становішча ў сродках масавай інфармацыі, якія фактычна манапалізаваў Саўмін. Паводле вынікаў абмеркаваньня прынятая заява Сойму.

На Сойме вырашана даць даручэньне Управе адпрацаваць зь ю рыстамі і разаслаць па суполках рэкамэндацыі дзеля стварэньня грамадзкіх камісіяў кантролю за фактамі злоўжываньняў з боку службовых асобаў. Прынятае рашэньне стварыць пры Камісіі БНФ па культуры і гісторыі геральдычнае падкамісіі і распрацаваць да лю таўскага Сойму эскіз эмблемы БНФ. Вырашана таксама, што на наступнай сэсіі Сойму будзе прызначана дата чарговага, III зьезду БНФ.

Падрыхтавала Вера Чуйко

# ЗАЯВА СОЙМУ БНФ ПРА ІНФАРМАЦЫЙНУЮ ПАЛІТЫКУ

Беларускі Народны Фронт заўсёды разглядаў свабоду слова як найважнейшы прынцып дэмакратычнага грамадзтва, дзе кожны павінен мець гарантаванае права выказваньня думак і перакананьняў. Але і пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў інфармацыйнай палітыцы Вярхоўнага Савету і Ўраду пануюць і нават мацнеюць таталітарныя традыцыі.

Напачатку 1992 г. газэты й часопісы перад пагрозаю фінансавага краху адна за адной перайшлі пад заснавальніцтва Савету Міністраў. Прыкрываючыся заявамі аб "выратаваньні прэсы", Саўмін з маўклівае згоды Міністэрства інфармацыі перадаў найбуйнейшае выдавецтва "Беларускі Дом друку" свайму гаспадарчаму ўпраўленьню. Журналістам далі зразумець, што іх месца – сярод абслугі намэнклятуры.

Ціск на пэрыядычныя выданьні, на тэле– і радыёрэдакцыі павялічыўся ў час падрыхтоўкі да рэфэрэндуму. Досыць прыгадаць ганеньні на праграму "Ніка". Міністэрства інфармацыі адмовілася забясьпечыць законнае права дэпутацкай апазыцыі мець пастаянны эфірны час на радыё і тэлебачаньні.

Нарэшце, на пачатку гэтага году без папярэджаньня, экспэртызы і судовай працэдуры ўлады спынілі трансьляцыю перадачаў незалежных тэлекампаніяў, чым яшчэ раз прадэманстравалі пасьлядоўнае імкненьне ўстанавіць татальны кантроль над усімі каналамі інфармацыі.

Урад ня мае канцэпцыі інфармацыйнае палітыкі, якая б зыходзіла з інтарэсаў суверэнітэту Беларусі. Толькі ў 1992 г. Беларусь унесла паўмільярда рублёў на ўтрыманьне тэлекампаніі "Астанкіна", якая так і ня стала крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі пра падзеі на Беларусі і ў іншых, акрамя Расеі, дзяржавах СНД. Паўстае ўражаньне, што месца на гэтым канале знаходзіцца толькі для рэгіёнаў, дзе льецца кроў.

На ўсё вышэйсказанае Беларускі Народны Фронт і дэпутаты апазыцыі шматразова зьвярталі ўвагу ў заявах і выступах. Мы зноў канстатуем супярэчнасьць дзеяньняў ураду і Міністэрства інфармацыі прынцыпам свабоды слова ды інтарэсам беларускае дзяржавы.

Беларускі Народны Фронт лічыць, што першачарговым крокам інфармацыйнай палітыкі Беларусі павінна стаць прыняцьцё Закону аб свабодзе друку, які б гарантаваў журналістам і ўсім грамадзянам бесьперашкодны доступ да інфармацыі і поўную магчымасьць выказваць пагляды й перакананьні. Гэты Закон стаў бы заслонай на шляху антыдзяржаўнай, антыканстытуцыйнай прапаганды.

БНФ выступае за дэманапалізацыю сродкаў масавай інфармацыі. Праект адпаведнае пастановы яшчэ ў кастрычніку летась падаваўся на разгляд Вярхоўнага Савету Апазыцыяй БНФ і і прадугледжваў немэтазгоднасьць заснавальніцтва Саветам Міністраў больш як аднаго пэрыядычнага выданьня (інфармацыйнага бюлетэню). Пры гэтым газэтам і часопісам грынамсі на год гарантавалася б дзяржаўнае фінансаваньне.

Інфармацыйная палітыка павінна садзейнічаць узьнікненьню й разьвіцьцю незалежных тэле- і радыёкампаніяў, пэрыядычных выданьняў, інфармацыйных агенцтваў, паколькі яны пашыраюць свабодную інфармацыйную прастору, ствараюць альтэрнатыву дзяржаўным СМІ і таму спрыяюць падвышэньню агульнага ўзроўню апэратыўнасьці, якасьці, дзейснасьці прэсы. Неабходна выправіць ненармальнае становішча, калі грамадзянам Беларусі фактычна навязваецца маскоўская трактоўка падзеяў у сьвеце, і далучыць Беларусь да сусьветнае інфармацыйнае прасторы. Відавочная неабходнасьць паляпшэньня матэрыяльна-тэхнічнае базы нацыянальнага тэлебачаньня й радыё, падвышэньня прафэсіяналізму беларускіх журналістаў, радыкальных кадравых зьменаў у кіраўніцтве дзяржаўных СМІ.

БНФ "Адраджэньне" выступае за няўхільнае выкананьне дзяржаўнымі й прыватнымі сродкамі інфармацыі Закону аб мовах. Эфэктыўным спосабам ажыцьцяўленьня прыярытэту дзяржаўнае мовы стала б скасаваньне на бліжэйшыя гады ўсіх падаткаў для цалкам беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі.

Мы выступаем за кантроль грамадзтва над зьместам як дзяржаўных, так і прыватных тэлерадыёпраграмаў і выданьняў, які б бараніў дзяцей і падлеткаў ад праяваў маральнай разбэшчанасьці. Гэты кантроль павінен ажыцьцяўляцца на цьвёрда вызначаных Законам падставах.

Мы добра разумеем, што радыкальныя зьмены да лепшага ў інфармацыйнай палітыцы немагчымыя пры захаваньні ўлады намэнклятуры. Таталітарны кантроль над прэсай павінен саступіць месца панаваньню цывілізаваных дэмакратычных прынцыпаў свабоды слова ды інфармацыі. Змаганьне за гэтыя прынцыпы – надзённая задача дэмакратычных сілаў краіны.

9 студзеня 1993 г.
г. Менск

# ПРЫСЯГАНЬНЕ – СЬВЯТА ВОЙСКА, СЬВЯТА НАРОДУ

31 сьнежня адбылася гістарычная для лёсу нашае дзяржавы падзея. Афіцэры Ўзброеных Сілаў Беларусі, у тым ліку найвышэйшае камандаваньне, склалі прысягу на вернасьць беларускаму народу.

Да ўрачыстага дня вёў няпросты шлях. Беларускі Народны Фронт з пачатку сваёй дзейнасьці выступаў за стварэньне і ўмацаваньне беларускага войска – аднаго з асноўных гарантаў незалежнасьці Бацькаўшчыны. Гэтаму працівіліся сілы, варожыя Беларусі й дэмакратыі. Калі ж распад СССР стаўся фактам, антынезалежніцкія колы ўсяляк адкладалі й зацягвалі афармленьне нацыянальных вайсковых інстытуцыяў. Але рашучыя палітычныя захады Беларускага Народнага Фронту ды іншых патрыятычных сілаў, перадусім рупліўная праца й масавае сымбалічнае прысяганьне вайскоўцаў дзейнае службы й запасу ў дзень перамогі пад Воршай, паскорылі непазьбежныя падзеі, і складаньне афіцэрамі прысягі адбылося.

Вядома, прысяга не разьвяжа ў аднача сьсе ўсіх палітычных і эканамічных праблемаў войска на Беларусі. На нашай зямлі застаецца шматлікі вайсковы кантынгент іншае дзяржавы. Ня вырашанае пытаньне вяртаньня прызваных зь Беларусі. І ўсё ж цяпер пабольшала шанцаў на грамадзкае паразуменьне дзеля дабра й незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Войска становіцца сапраўды беларускім. Гэта – сьвята ўсяе краіны, доўгачаканае сьвята кожнага з нас. Ад душы, сардэчна вiншуем нашых вайскоўцаў, зычым усім здароўя, шчасьця, вытрываласьці ў нялёгкай службе – службе дзеля Беларусі.

Управа Сойму БНФ "Адраджэньне"

# Супраць наступу таталітарызму

У Менску спынена трансьляцыя праграмаў недзяржаўных тэлекампаніяў. Не даючы тут ацэнкі зьместу згаданых праграмаў, заяўляем наступнае.

Без папярэджаньня, экспэртызы й судовай працэдуры ўлады закрылі незалежныя сродкі інфармацыі. Гэтае рашэньне зьяўляецца чарговым крокам да інфармацыйнае манаполіі нэакамуністычнага рэжыму. Цяпер ніводзін незалежны сродак масавай інфармацыі ці журналіст не можа пачувацца ў бясьпецы ад магчымых рэпрэсіўных акцыяў. Процізаконнае нішчэньне незалежных сродкаў інфармацыі і перасьлед журналістаў – гэта падрыхтоўка да вяртаньня таталітарызму на Беларусі, і публічныя запэўненьні кіраўнікоў краіны ў прыхільнасьці ідэалам правоў і дэмакратыі, іхныя ўяўныя клопаты пра маральнасьць народу пры такіх дзеяньнях зьяўляюцца звычайнаю дэмагогіяй.

Управа Сойму БНФ "Адраджэньне"



# СПЭКТАКЛЬ ПАСТАЎЛЕНЫ ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ — РАНЕЙШЫЯ

У Беларусі распачалася ... прэзыдэнцкая кампанія. Нехта абурана ўскінецца: што гэта яна вярзе? Яшчэ не прынятая Канстытуцыя, а калі будзе прымацца, дык невядома, ці застанецца ў ёй палажэньне пра ўвядзеньне ў Беларусі пасады Прэзыдэнта.

І ўсё ж у апошнія тыдні мінулага году мы сталі сьведкамі беспрэцэдэнтнага спаборніцтва паміж Кебічам і Шушкевічам за ўплыў на грамадзкую думку насельніцтва краіны, чаго раней так відавочна не назіралася.

Наогул раней Вячаслаў Кебіч не імкнуўся быць навідавоку. Калі і выступаў публічна, дык пераважна на нарадах ці ў парляманце. І толькі ў якасьці кіраўніка ўраду, які растлумачвае ці апраўдвае тыя ці іншыя дзеяньні ўраду.

У сьнежні Кебіч вырашыў паўстаць перад народам як лідар нацыі. Для гэтага робіцца паездка ў Мір, дзе ён выступае зь вялікаю праграмнаю прамовай.

30 сьнежня, у тэлеінтэрвію, якое са старшынёй Саўміну праводзіў вядомы журналіст Майсеня (сьмешна было назіраць, як Кебіч і ён стараліся давесьці адзін аднаму, як яны добра ведаюць прынцыповасьць адзін аднаго), Вячаслаў Францавіч растлумачыў, чаму ён тую прамову сказаў. Бо, аказваецца, павінен жа нехта нарэшце сказаць народу, што (які лад) мы будуем і куды ідзем.

Далей тэлегледачы маглі зрабіць выснову самі: ані Шушкевіч, ані Вярхоўны Савет не сказалі, а вось Кебіч - сказаў. Праўда, наўрад ці ад сказанага Вячаславам Францавічам пабольшала яснасьці, бо будучыню ён намаляваў даволі агульнымі фарбамі. Але ў галаве застанецца: Кебіч гаварыў на гэтую тэму.

Дарэчы, з тэлеінтэрвію ён меў выступаць 24 сьнежня, але перанесьлі яго на 30-га. Хутчэй за ўсё, невыпадкова. У старшыні Саўміну зьявілася магчымасьць працягваць гуляць ролю лідара, ці нават "бацькі" нацыі. Ён паабяцаў народу, што 1993 год стане годам стабілізацыі, з дапамогай журналіста і яго ўмелых падказак намаляваў даволі прывабны вобраз ураду, які жыве толькі адным імкненьнем – каб народ быў шчасьлівы, а ў канцы вельмі эмацыйна і не "па-казённаму" заклікаў "дорогих соотечественников": "Знаете что? Давайте перестанем хмуриться, улыбнёмся друг другу, пожелаем счастья!" (мова арыгіналу).

І трэба адзначыць, што ролю "бацькі" нацыі Кебіч згуляў больш умела, чым Шушкевіч. У таго таксама ў сьнежні былі два "мерапрыемствы". Адно называлася сустрэчай з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Сталы літарай "П" былі вялізныя, а гэтых самых кіраўнікоў было - па пальцах пералічыць. Сталяроў, дырэктар нацыянальнай тэлерадыёкампаніі (ён і вёў сустрэчу), Аляксейчык - дырэктар Белінфарму, Наркевіч - рэдактар "Звязды" і Макаловіч - намесьнік рэдактара "Народнай газеты". А дзе ж астатнія? Рэдактары "Рэспублікі", "Советской Белоруссии", "Знамени юности" - кіраўнікі цалкам саўмінаўскіх газэтаў? Дзе прадстаўнікі "Белорусской нивы", "Беларускага часу" і г.д.? Не прыйшлі дзеля аб'ектыўных прычынаў ці "захварэлі", як Ельцын і Назарбаеў перад сьнежаньскай СНДоўскай сустрэчай?

Як бы ні было, а выявілася, што паслухаць Шушкевіча ці задаць яму пытаньні ня так і шмат ахвотнікаў. Бо загадзя ведаеш, што ён скажа і адкажа (праўда, неспадзяванка была падчас прэс-канфэрэнцыі з Бразаўскасам, калі на маё пытаньне, на якой аснове ён будзе ладзіць адносіны з новым кіраўніком Літвы, Шушкевіч аж выйшаў зь сябе і пачаў гаварыць пра радыё "Свабода" фразэалёгіяй ведамства Кручкова).

Каронны "нумар" - "згода". Праўда, маўляў, не па прынцыповых пытаньнях. І ён, Шушкевіч, зробіць усё, каб выбары ў сакавіку 1994 году, заява пра якія прынятая Вярхоўным Саветам, адбыліся.

А хто паверыць у гэта, шаноўны Станіслаў Станіслававіч? Ці ня тое ж самае вы казалі і пра рэфэрэндум? Асабліва на сустрэчах з "прадстаўнікамі міжнароднай супольнасьці"? А цяпер што сьцьвярджаеце?

Тое ж самае пачняце казаць, калі Вярхоўны Савет прыме рашэньне не праводзіць выбары. Скажаце, што ён мае рацыю, што падпарадкоўваецеся большасьці і г.д.

Безумоўна, палітык павінен быць гнуткім. Але не да такой жа ступені, выбачайце!

Цяперашняя, дзясятая сэсія Вярхоўнага Савету асабліва яскрава паказвае, наколькі спікер парляманту катастрафічна губляе аўтарытэт. Відаць, ён сам адчувае гэта, але ня хоча верыць, што сапраўды так. Тым больш што "незалежныя" сацыялягічныя дасьледаваньні "даказалі", што Станіслаў Шушкевіч - "чалавек году" (1992-га). (Іншыя "незалежныя" сацдасьледваньні ўжо паказваюць, як "расьце" аўтарытэт ураду і пэрсанальна Кебіча, і што менавіта зь імі зьвязвае народ чаканьні выхаду з крызысу, а не зь Вярхоўным Саветам).

І як жа, паверыш, калі яшчэ нядаўна Шушкевіч і сапраўды выклікаў у пэўнай часткі насельніцтва павагу і аўтарытэт. Падабаліся ягоная разважлівасьць, уменьне лягічна й спакойна гаварыць. Усё ж такі прафэсарская вывучка адчувалася.

Таму і на "прамыя" тэлевізійныя размовы Шушкевіча народ спачатку кідаўся. А потым зразумеў, што чакаць ад іх няма чаго. Ды, відаць, і Шушкевічу надакучыла адказваць на "калючыя" пытаньні, ён вельмі раздражняецца ад іх, і перадачы -"размовы" паціху сканалі.

Адным словам, калі Старшыня Вярхоўнага Савету прыступіў да яшчэ аднаго мерапрыемства - навагодняе прамовы, дык сказаць нешта новае па сутнасьці ня змог. Ды і што скажаш? Вось і не знайшоў нічога лепшага, як распавесьці пра СНД. Быццам у народзе яшчэ нехта верыць у яе.

Так што, здаецца, першы раўнд "прэзыдэнцкае" кампаніі старшыні ўраду сьпікер прагуляў. Яна наагул можа не адбыцца – ня толькі таму, што, скажам, у Канстытуцыі ня будзе разьдзелу пра пасаду Прэзыдэнта. А таму, што старшыня Саўміну атрымае і бяз гэтага паўнату ўлады з дапамогаю дэпутацкае большасьці. Такія патрабаваньні ў парляманце ўжо гучаць.

Але зьмена Кебіча на Шушкевіча - гэта ўсё тая ж практыка наліваньня новага віна ў старыя мяхі. Бясконца паўтораны аргумант, што ў Беларусі жывецца лепш, чым у іншых краінах СНД, - слабае суцяшэньне. Бо толькі яшчэ раз сьведчыць пра нашую саўковую звычку: параўноўваць дрэннае з горшым і цешыцца, што ў некага справы зусім дрэнь.

Чаму ж мы ня цягнемся да лепшых узораў? Нам далёка да іх? Будзе яшчэ далей, калі будзем кіраваць эканомікай з дапамогай разьмеркавальнага прынцыпу ды ўжо "стабільнае" карткава-талённае сыстэмы. Якая, ну вядома ж, уводзілася "ў інтарэсах насельніцтва", часова, каб абараніць нутраны рынак. А часовае і ёсьць самае ўстойлівае яшчэ з савецкай пары.

...А за спаборніцтвам Кебіча й Шушкевіча (хаця яго наяўнасьць яны адмаўляюць) назіраць цікава. Спэктакль разгортваецца (сёлета можна чакаць працягу) даволі захапляльны.

Што ж, няхай прамінулая эпоха разьвітаецца лепш фарсам, чым драмай.

Галіна Айзенштат

# Сьвятое пісьмо
## і беларуская незалежнасьць

Сёньня, калі абрынуліся сьцены апошняй вялікай імпэрыі і перад вязьнямі "турмы народаў", па трапным вызначэньні бальшавіцкага правадыра, адкрыўся шырокі далягляд божага сьвету, многія нашыя суайчыньнікі адчуваюць сябе падобна чалавеку ў незнаёмым балоце – дрыгва з усіх бакоў і хочацца павярнуць назад. Але і назад ужо шляху няма, пазаплылі купіны, па якіх крочылі, і трэба йсьці наперад.

Дарэчы, няма ў гэтай нерашучасьці і няўпэўненасьці нічога дзіўнага, бо чалавеку ўласьцівая абачлівасьць і асьцярожнасьць. Ён кансэрватыўны па прыродзе. І толькі добра бачная перспэктыва альбо непасрэдная пагроза яго існаваньню вымушае чалавека да рашучых дзеяньняў.

Здаецца, што датычыцца беларускай незалежнасьці, няма ні таго ні другога. Ды й адкуль узяцца гэтай пэрспэктыве, калі многа пакаленьняў запар мэтанакіравана праводзілася сацыяльная сэлекцыя – вынішчалася ці пазбаўлялася нацыянальнай сьвядомасьці лепшая частка грамадзтва, спачатку набілітэт, а потым інтэлігенцыя. Зь беларусаў настойліва рабілі працоўную скацінку, заклапочаную выключна адзінай праблемай – як здабыць хлеб свой штодзённы. Выбіцца з гэтае нядолі можна было толькі адцураўшыся ад сваёй Бацькаўшчыны, здрадзіўшы ёй. І многія ішлі гэтым шляхам. Таму так пякельна горача гучаць і сёньня словы пра Пагоню нашага песьняра Максіма: "Мо яны, Беларусь, панясьліся за тваімі дзяцьмі наўздагон, што забылі цябе, адракліся, прадалі і аддалі ў палон?"

Таму нашаму сёньняшняму адраджэньню так нестае людзей высакародных, асьвечаных і самаахвярных, гатовых паклікаць і павесьці народ за сабою, прыняўшы адказнасьць на сябе, у тую сьветлую далеч, што відаць на даляглядзе ў цывілізаваным сьвеце, да якога мы належалі ў свой час, але былі вырваныя зь яго два стагодзьдзі таму. Таму і ствараецца адчуваньне, што дарогі наперад няма, што паўсюль багна, што толькі ў вяртаньні назад, у сацыялізьме (з кітайскім аблічам) нашае выратаваньне.

Адсутнасьцю нацыянальна сьвядомай інтэлектуальнай эліты ва ўсю карыстаюцца "салаўі намэнклятуры". Апошнім часам стаў вельмі папулярны прыдуманы імі лёзунг: "Беларусь жыве лепш за іншыя краіны СНД". Гэтым лёзунгам апраўдваюць дзейснасьць СМ і ВС, скіраваную на замаруджваньне эканамічных рэформаў, апраўдваюць адсутнасьць палітыкі ўмацаваньня незалежнасьці і нават палітыку жорсткага кантролю над сродкамі масавай інфармацыі. Быццам адсутнасьць рэформаў і адпаведных законаў пазбаўляе Беларусь неабходнасьці іх правядзеньня. Быццам бы гэтае прамаруджваньне не зацягвае пэрыяд непазьбежных пакутаў, якія заўсёды суправаджаюць працэс структурнай перабудовы гаспадаркі і самога грамадзтва. Быццам бы падобная папулісцкая палітыка хаваньня галавы ў пясок каму-небудзь і дзе-небудзь прыносіла карысьць.

Такім чынам, дзякуючы інфармацыйнай блякадзе і адсутнасьці ў грамадзтве атмасфэры сацыяльнай адказнасьці ды заклапочанасьці лёсам народу, і ствараецца ў шараговага грамадзяніна ўражаньне няпэўнасьці і ненадзейнасьці самога шляху да незалежнасьці і адраджэньня. Уражаньне, якое цалкам супярэчыць гісторыі чалавецтва.

Амаль кожны народ на працягу свайго існаваньня перажыў пэрыяды ўздыму, моцы і велічы – і пэрыяды заняпаду, якія абавязкова сканчаліся Адраджэньнем. Бо ў процілеглым выпадку народ зьнікаў. Італія, напрыклад, перажывала адраджэньне двойчы. Спачатку ўсім вядомы Рэнэсанс XV-XVI стст., а потым Рысарджымэнта з канца XVIII да 60-х гадоў XIX, якое скончылася вызваленьнем Італіі ад замежнага прыгнёту і ўтварэньнем адзінай дзяржавы. Пасьля першай сусьветнай вайны адрадзілі сваю незалежнасьць Польшча, Чэхія, Славакія, Вугоршчына, Сербія, краіны Балтыі.

Фармальна адрадзіў сваю дзяржаўнасьць і беларускі народ. Але спатрэбілася яшчэ больш чым 70 год, каб нашая незалежнасьць пачала набываць рэальныя абрысы. Ці не запозна? Ці не зашмат стратаў панесла Беларусь за гэтыя гады? Ці здолеем мы сабраць усе сілы ў кулак і пракласьці сабе дарогу ў супольнасьць вольных, незалежных народаў? Ці здолеем вярнуць сабе павагу суседзяў і павагу сваіх нашчадкаў? Што для гэтага трэба рабіць?

Каб адказаць на гэтыя пытаньні, зьвернемся да Сьвятога Пісьма – крыніцы, дзе выкладзена гісторыя сталеньня чалавечага духу, ідэйная гісторыя цывілізацыі. Ужо другая кніга Бібліі завецца "Выхад". Яна апавядае, як нашчадкі праайца Якава выйшлі зь зямлі ягіпецкай і накіраваліся ў зямлю абяцаную. Гэтая кніга – разгорнутая прыпавесьць пра Адраджэньне габрэйскага народу. За сваю шматвяковую гісторыю габрэі ня раз перажывалі нацыянальны заняпад, але кожны раз знаходзілі сілы для адраджэньня. Крыніцаю гэтае сілы было для іх Сьвятое Пісьмо. Таму мае сэнс удумацца ў тое, пра што гаворыць кніга "Выхад".

Нашчадкам Якава было зусім нядрэнна пад уладаю фараона з мэркантыльнага пункту погляду. Ежы і жыльля хапала. Ягіпецкая армія забясьпечвала мір. Таму нашчадкаў праайца Якава хутка прыбывала. Ім даставалася, праўда, самая цяжкая і самая няўдзячная праца. Да таго ж фараону не падабаўся іхны культ. Ад гэтага слова паходзіць і слова "культура". Ён хацеў, каб яны пакланяліся Богу гэтаксама, як і астатнія жыхары. І, каб паскорыць працэс зьнікненьня іх адметнасьці, падступны цар Ягіпту загадаў павітухам, якія прымалі роды ў габрэйскіх жанчын, забіваць хлопчыкаў і пакідаць толькі дзяўчатак.

Сёньня гэта б назвалі генацыдам. Ці не нагадвае гэта тое, што рабілася зь беларусамі ў 30-я, 40-я, 50-я гады? Расстрэлы 30-х. Жахлівыя страты ў вайне 1941-45 гг. Пасьляваенныя рэпрэсіі й масавы вываз моладзі на "будоўлі камунізму", цаліну, у Сібір. А замест вывезеных цягнуліся сюды бясконцыя шэрагі імігрантаў, якія займалі кіраўнічыя пасады і ўтваралі сацыяльную праслойку, на якую абапіралася дэнацыяналізаваная, дэклясаваная намэнклятура.

Так бы і зьнік габрэйскі народ, калі б не нарадзіўся сярод яго чалавек, якога пазьней назвалі прарокам. Яму прыпісваецца стварэньне самых старажытных кніг Сьвятога Пісьма і подзьвіг выхаду габрэяў зь Ягіпту. Імя яму Майсей. Супляменьнікі ня слухалі яго, пакуль жахлівыя кары ягіпецкія, у якіх лёгка чытаецца апаэтызаванае, міталягічнае апісаньне звычайных праяваў глыбокага сацыяльна-палітычнага крызысу, не прымусілі габрэяў паверыць, што Бог хоча іхняга выхаду.

І, падняўшыся, яны пайшлі за Майсеем у пустэльню, дзе блукалі, пакутуючы ад нястачы хлеба й вады, ад сьпёкі й холаду , бо Бог сказаў, што тыя, хто нарадзіўся ў палоне, ня ўвойдуць у зямлю абяцаную цэлых 40 год. Падчас гэтых блуканьняў Бог даў праз Майсея людзям Закон і прывёў іх да мяжы той краіны, якая належала прабацькам габрэйскага народу. Ён нават дазволіў Майсею зь вяршыні гары пабачыць гэтую зямлю, дзе "рэкі цяклі малаком і мёдам". Але ўвайшлі габрэі ў яе пад началам новага правадыра-героя Ісуса Навіна, сілаю зброі сьцьвярджаючы свае правы на волю і незалежнасьць.

У гэтай старой як сьвет прыпавесьці згадана ўсё, што трэба для Адраджэньня. Патрэбныя людзі-прарокі, патрэбная воля да свабоды і рашучасьць народу прайсьці праз "пустэльню" і вытрываць усе цяжкасьці гэтага падарожжа. Але ўзнагародаю будзе ня толькі адроджаная гістарычная памяць і самапавага, але й зямля Бацькаўшчыны, дзе рэкі цякуць "малаком і мёдам".

Праз два месяцы спаўняецца 75 год з гістарычнага для Беларусі дня 25 сакавіка 1918 году, калі нашыя продкі пачалі свой выхад зь "ягіпецкага рабства", абвясьціўшы незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. І вось – блізкі ўжо час рэальнай незалежнасьці, засталіся апошнія, самыя цяжкія намаганьні, калі для заваяваньня незалежнасьці спатрэбяцца агульныя вынікі і калі, нарэшце, "гэта салодкае слова свабода" стане рэальнасьцю і для беларусаў.

Успомнім жа тых, хто пачаў гэты нялёгкі, пакутлівы шлях, і ўтворым ім нізкі паклон.

Юры Хадыка

# ЯКІМ БЫЦЬ ФРОНТУ

У спэцыфічную пару дэкамунізацыі нюансы адрозьненьняў між сацыял-дэмакратычным, лібэральным і народна-цэнтрысцкім сьветапоглядам для звычайна далёкага ад палітыкі чалавека малапрыкметныя. На Беларусі зь яе нэакамуністычным рэжымам сёньня і ў бліжэйшай будучыні дэкляраваныя мэты антытаталітарных кірункаў палітычнае думкі былі й застаюцца блізкія (згадайма палажэньне пра сацыяльную рынкавую эканоміку). Зрэшты, нават Кебіч у троннай прамове ў Міры прачытаў з паперкі пра "сацыялізаваную рынкавую эканоміку", пра незалежнасьць, пра нацыянальнае адраджэньне і хрысьціянскія каштоўнасьці. Так што наступае пара вялікае дэмагогіі, калі з дэклярацыяў цяжка разабрацца, хто ёсьць who (як казаў пэўны нобэлеўскі ляўрэат).

Таму найвялікшым палітычным здабыткам стае маральнасьць у палітыцы — выбар палітычных мэтаў і, што прынцыпова, сродкаў іх дасягненьня, якія знаходзяцца ў рэчышчы народных уяўленьняў пра мараль і спрыяюць умацаваньню ды спраўджаньню маральных каштоўнасьцяў.

У суседняй Польшчы маральнасьць палітыкі тых ці іншых сілаў у пэўнай ступені паўплывала на палітычны расклад. Ці мала ўдзельнікаў традыцыйная заходняя градацыя ад сацыялізму зь ягоным упорам на дзяржаўнае рэгуляваньне эканомікі да лібэралізму зь ягонаю надзеяй выключна на адзінку. У цэнтры — месца народна-цэнтрысцкае палітычнае плыні (партыі якой называюцца ў розных краінах па-рознаму: у Вялікабрытаніі гэта кансэрватары, у Нямеччыне хрысьціянскія дэмакраты); гэтая плынь не проціпастаўляе асабісты й калектыўны інтэрас і мкнецца адстойваць інтарэсы грамадзтва, а ня пэўнае клясы. Але для Заходняе Эўропы, дзе станаўленьне нацыянальных дзяржаваў даўно скончылася, нацыянальнае пытаньне актуальнае ў значна меншай ступені, чым для ўсходу Эўропы. Таму, на маю думку, дзеля паўніні адлюстраваньня пазыцыяў палітычных сілаў у былых падсавецкіх рэспубліках мэтазгодна ўвесьці другую каардынату — зьнізу ўверх, ад поўнага адмаўленьня незалежнасьці й курсу на аднаўленьне імпэрыі да крайніх формаў рэалізацыі нацыянальных прыярытэтаў. На сярэдняй вышыні — мэтанакіраваны і ўраўнаважаны курс на мацаваньне незалежнасьці й беларускае нацыянальнае адраджэньне без ушчамленьня правоў іншых нацыянальнасьцяў. Схема ўмоўная, і разьмяшчэньне тых ці іншых сілаў на палітычнай прасторы Беларусі можа карэктавацца. Мейсца кіроўнае партыі — "партыі ўлады" партыям сілаў спаза Беларусі. Нездарма адзін з аўтарытэтаў лібэральнае думкі Фрэнсіс Фукуяма прызнаў нарэшце вартасьць дзеля зьдзяйсьненьня лібэральных каштоўнасьцяў "памяркоўнага і пазытыўнага пачуцьця нацыянальнай ідэнтычнасьці".

Традыцыйная перадзьездаўская дыскусія пра тое, заставацца Фронту фронтам ці ператварыцца ў партыю, мусіць абапірацца на рэальны стан рэчаў. А стан такі, што алергія да партыйнасьці ў грамадзтве міне няхутка. Гэта першае. Другое — еднасьць дэмакратычных сілаў шмат у чым цэмэнтуецца Фронтам, тым, што багата людзей уваходзяць у партыі ды ў Фронт адначасова. Ператварыўшы Фронт у партыю, мы паставім іх перад цяжкім выбарам, а дэмакратычны рух — перад неабходнасьцю драбленьня. Мы адказныя за еднасьць дэмакратычных сілаў краіны. Урэшце, зважайма і на тое, што мноства людзей нашых у сутнасьці сваёй беспартыйныя, яны не цікавяцца й ня будуць цікавіцца спэцыфікаю сацыял-дэмакратычнага, народна-цэнтрысцкага або лібэральнага кірунку. Ім баліць, што вакол чыніцца несправядлівасьць, яны прагнуць запабегчы ёй, і Фронт дае ім такую магчымасьць.

Цёмнаю чвартаванаю штрыхоўкаю паказаны гіпатэтычны БНФ, ператвораны ў партыю.




"круглага стала" (паразуменьня апазыцыі з камуністычным кіраўніцтвам) паддаліся спакусе. Польская некамуністычная апазыцыя абвінавачвае некаторыя лібэральныя плыні ў змове з экс-камуністамі, прычым ідэйны грунт пад гэтую змову падводзяць лібэралы: маўляў, з пазыцыяў чыстага лібэралізму неістотна, як утвараюцца падставы рынкавай эканомікі, няхай сабе і зь няправым шляхам нажытых камуністычнаю элітаю капіталаў. Частка ж польскіх сацыялістаў пайшла на паразуменьне з посткамуністычнаю прафсаюзнаю намэнклятурай.

На маю думку, адным з найбольш істотных набыткаў Фронту ёсьць маральнасьць ягонае палітыкі. Фронт не пайшоў на склізкі кампраміс з намэнклятураю. Гэтую лінію трэба вытрымліваць і надалей.

Перад зьездам варта высьветліць, якое месца Фронту ў раскладзе палітычных сілаў. Прапануецца схэматычная палітычная мапа Беларусі зь дзьвюма восямі. Зьлева направа — посткамуністычнага Саўміну — у левай ніжняй чвэрці. Сярэдні й верхні левы край пусты, бо ў нас няма нацыянал-камуністаў.

Сьветлым авалам на схеме пазначаны цяперашні, шырокі Беларускі Народны Фронт. Шырокі і дзеля ягонае антытаталітарнае, незалежніцкае ды адраджэнцкае праграмы, і дзеля дастаткова шырокае палітры пагляду ягоных сяброў і прыхільнікаў. Добра відаць аб'яднаўчая роля Фронту, у які ўваходзіць ладная частка сяброў БСДГ, уваходзіць НДПБ, некаторыя аб'яднаныя дэмакраты, прадстаўнікі Сялянскае партыі, хрысьціянскія дэмакраты (мейсца БХДЗ магло б быць каля цэнтру, але пакуль няма дакумантаў, якія б гэта вызначылі). Цёмнаю штрыхоўкаю пазначаныя сілы блёку "Рэфэрэндум".

Блёк "Рэфэрэндум" — жыцьцёвы, бо мэты ягоных удзельнікаў блізкія, а прынцыповыя супярэчнасьці між імі адсутнічаюць або нязначныя. На Беларусі дэмакратычныя сілы ад левых да правых яднае незалежніцкая пастава; зрэшты, добрыя імпульсы ідуць ад ідэйна роднасных нашым Партызацыя Фронту прывяла б да звужэньня праграмы, яе канкрэтызацыі ў народна-цэнтрысцкім кірунку. Але характэрныя для гэтага кірунку прыярытэт маральных каштоўнасьцяў, абарона нацыянальнае самабытнасьці, пашана да традыцыі й чарпаньне досьведу ў гісторыі народу, абарона ўласнасьці й свабоды чалавека ды інтарэсаў супольнасьцяў, моцная ўлада й парадак дзеля зьберажэньня гэтых вартасьцяў — усё гэта прысутнае і ў цяперашняй праграме Фронту, разам з пытаньнямі сацыяльнай абароны, адстойваньня правоў чалавека... Народна-цэнтрысцкія вартасьці з вартасьцямі і лібэральнымі, і сацыял-дэмакратычнымі добра пагаджаюць шырокая арганізацыйная форма і шырокая антытаталітарная незалежніцка-адраджэнцкая праграма.

Вінцук ВЯЧОРКА

(Паводле выступу на студзеньскім Сойме БНФ)

# НАШЫЯ НЕТРЫ

Чым багаты, тым і рады, – гаворыць народная мудрасьць. І добры гаспадар заўсёды ведае, чым багатае ягонае гаспадарства. Але Беларусь ад 50-х гадоў была белаю плямаю ў геалягічных адносінах. Яе мінэральныя рэсурсы пачалі вывучацца толькі пасьля II сусьветнай вайны. Так паведаміў віцэ–прэзыдэнт АНБ, дырэктар Інстытуту геалёгіі, геахіміі й геафізыкі Р.Гарэцкі ў спавешчаньні "Багацьце нетраў Беларусі", які ён прачытаў на штогадовай канфэрэнцыі, прысьвечанай памяці вядомага беларускага геоляга К. Лукашова.

Найбольшым нашым багацьцем зьяўляюцца радовішчы калійнай і каменнай солі. Ёсьць добрыя запасы лышчаку (сланцаў), бурага вугалю, гіпсу, даўсаніту, цэмэнту, жвіру. Але разьведаныя рэсурсы нафты складаюць толькі 80 млн. т., а прыкладна гэтулькі яе ўжо выпампавана з пачатку прамысловае здабычы ў 1964 годзе.

На думку акадэміка Гарэцкага, нашыя рэсурсы не такія вялікія, але і не такія ўжо й малыя. Могуць уяўляць прамысловы інтарэс радовішчы жалезнае руды й багатыя на рэдказямельныя элемэнты "расолы" – яшчэ адна разнавіднасьць карысных выкапняў, якою багатая Беларусь. Ёсьць таксама ў нас сваё золата, зьявіліся прыкметы таго, што будуць знойдзены дыямэнты. Галоўная праблема – арганізацыя комплекснае перапрацоўкі мінэральнае сыравіны на падставе экалягічна чыстых тэхналёгіяў.

Аптымізм навукоўцаў, які падзялялі іншыя выступоўцы, крыху астудзіў доктар геоляга-мінэралягічных навукаў, прафэсар Аляксандар Тамановіч, які прысьвяціў выступ гаспадарчаму мэханізму рацыянальнага выкарыстаньня мінэральных рэсурсаў Беларусі. Ён адзначыў надзвычайную складанасьць і бюракратызаванасьць гэтага мэханізму, яго арыентацыю на выдатковую эканоміку, адсутнасьць каштоўнаснай ацэнкі пры выкарыстаньні рэсурсаў. Пералічыўшы шматлікія хібы існай эканомікі, выступовец зазначыў, што, на яго думку, кожны гаспадарчы мэханізм ва ўмовах калектыўнай уласнасьці, калектыўнай гаспадаркі й манаполіі дзяржавы ня дасьць плёну.

Па востракрытычнай скіраванасьці гэта быў проста фронтаўскі даклад. Аўтар прапанаваў тэрмінова распрацаваць кадастар карысных выкапняў, прыняць нарматыўную базу аплаты за карыстаньне прыроднымі рэсурсамі, распрацаваць дзейсныя экалягічныя мэханізмы абароны прыроды. Усё гэта сьведчыць пра тое, што ў прамысловым і навуковым асяродзьдзі паступова высьпявае разуменьне неканструктыўнасьці эканамічнае стратэгіі ўраду В.Кебіча.

Цікавасьць прысутных выклікала таксама спавешчаньне Віталя Масквіча – прэзыдэнта БелГЭА – новае формы навукова-прамысловае прыватнаўласьніцкай асацыяцыі, якая толькі летась і толькі на навуковыя распрацоўкі вылучыла 27 млн. рублёў. Гэтая асацыяцыя займаецца перапрацоўкаю выкапняў, дрэва, адыходаў прамысловасьці і нават здабычай золата.

Юры Хадыка

# Якая будзе расплата за стабільнасьць ?




Наш славуты пясьняр і грамадзкі дзяяч С.Сокалаў-Воюш ужо больш за год вывучае ўмовы жыцьця ў Злучаных Штатах. Але цікаўнасьці да падзеяў на Радзіме не губляе. Днямі ён даслаў у рэдакцыю копію развароту часопіса "Тайм" – аднаго з найбольш аўтарытэтных выданьняў у Амэрыцы. У вельмі нагляднай і кідкай форме тут пададзеныя вынікі аналізу палітычнай і эканамічнай сытуацыі ў краінах на абшарах былога СССР і даецца прагноз амэрыканскіх спэцыялістаў, што да разьвіцьця экономікі гэтых краінаў да канца 1994 году.

Мяркуем, што пагляд звонку на стан, які мы бачым знутры, зацікавіць нашых чытачоў.

Пачнем з прыемнага. Беларусь уваходзіць у лік чатырох краінаў зь 15 з найвышэйшым у 1992 годзе падушным валавым нацыянальным прыбыткам (ВНП). Пры гэтым яна апярэджвае на 1% Латвію і на 6% Расею і Эстонію, на 20-30% Украіну, Літву і Казахстан, ня кажучы ўжо пра астатніх. І хаця ВНП мізэрны ў абсалютных велічынях, нельга не пагадзіцца з салаўямі СМ і ВС Беларусі, што спад вытворчасьці ў нашай рэспубліцы найменшы. У мінулым 1992 годзе ён склаў каля 10%.

Беларусь разам з Туркменіяй узначальвае і сьпіс самых стабільных у палітычных адносінах посткамуністычных краінаў і апярэджвае па гэтым паказьніку Арменію, Эстонію, Казахстан, Латвію й Літву (другое месца). На трэцім – Расея, Кіргізія, Украіна і Узьбекістан. Зусім не стабільная сытуацыя, па ацэнках замежных саветолягаў, у Азербайджане, Грузіі, Малдове й Таджыкістане. Натуральна – гэта краіны, дзе йдуць ці йшлі зусім нядаўна баявыя дзеяньні.

Вельмі цікава з гэтым ганаровым рэестрам стабільнасьці, якая на Захадзе разглядаецца як найнеабходная ўмова пасьпяховасьці эканамічных рэформаў, параўнаць рэестар рэальнай ступені прагрэсу рэформаў. Тут на першым месцы Арменія, Эстонія й Латвія, на другім – Літва й Расея, на трэцім – Кіргізія, Казахстан, Украіна й Туркменія. Толькі на чацьвертым мейсьцы Азербайджан, Грузія й Беларусь. Зусім дрэнна з рэформамі ў Малдове, Таджыкістане і Ўзьбекістане.

Такім чынам, назіраецца пэўная карэляцыя паміж стабільнасьцю й пасьпяховасьцю рэформаў. Дзе стабільна (але ня гэтак стабільна, як у Беларусі й Туркменіі), там рэформы рухаюцца. Лідаруюць Арменія, эстонія й Латвія. Крыху адстаюць Казахстан і Літва, затое апярэджвае Расея. Посьпехі эканамічных рэформаў у Кіргізіі і Ўкраіне адпавядаюць і ступені іхнае палітычнае стабільнасьці. Азербайджану, Грузіі, Малдове й Таджыкістану спазьненьне ў эканамічных пераўтварэньнях можна дараваць з-за фактычна грамадзянскіх войнаў, якія там ідуць. І толькі стабільная Беларусь разам з адносна стабільным Узьбекістанам не сьпяшаюцца з рэформамі.

Нават Туркменія, якую ўзначальвае Прэзыдэнт і Першы сакратар Ніязаў, абганяе Беларусь. Гэтае адставаньне можна растлумачыць толькі разгулам «дэмакратыі», які дапусьціў наш Вярхоўны Савет. У астатнім мы ад Туркменіі нічым не адрозьніваемся.

Якая ж будзе расплата за нашую стабільнасьць? Прадбачаць далейшае скарачэньне аб'ёмаў вытворчасьці ( прыкладна на 15% сёлета), паніжэньне ўзроўню жыцьця (прыкладна да 75% узроўню канца 1991 г.) і, што самае крыўднае, працяг скарачэньня ВНП і ў 1994 годзе – калі спад вытворчасьці спыніцца ў Літве, Латвіі, Арменіі й Расеі, а ў Эстоніі вытворчасьць нават узрасьце.

Ю.Хадыка

# У МАСКВЕ ДУРНЯЎ ЛЮБЯЦЬ

Разуменьне сярэдняга намэнклятурнага дырэктара-вытворцы на Беларусі прыблізна такое: атрымаў фінансаваньне ад дзяржавы, зрабіў з грэхам папалам прадукцыю, паставіў... у Расею, чакаю аплаты. Ён думае, што так будзе вечна (як у той кітайскай показцы: "сідзу ў фанза, п'ю цай, зду невеста..." і г.д.).

Гэта ж і намэнклятурны ўрад Беларусі мяркуе, што нафту з Расеі будзе атрымліваць увесь час, трэба толькі з расейцамі добра пагаварыць, паступіцца беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі, глядзіш – і "адпусьцяць" таньней. І не відаць канца гэтаму каляніяльнаму халуйству. Не прыходзіць у галаву думка пра дзяржаўную палітыку ў галіне экономікі, пра неабходнасьць іншых крыніцаў энэргазабесьпячэньня і г.д., не ўспрымаецца нічога, што навокал раяць. Добра быць халуём. А там, глядзіш, і "Советский Союз возвратится".

Тым часам на ўсходзе час не марнуюць. Як стала вядома, у Расеі прынятае рашэньне стварыць вытворчасьць сваіх вялікагрузных аўтамабіляў (для кар'ерных распрацовак і пад.) А гэта значыць, што скончыцца беларуская аўтамабільная манаполія ў гэтай галіне, зьнікне адзіны расейскі рынак для "Белаза". Заводы пры нашым бюракратычным вар'яцтве прыйдзецца зачыніць, людзей скараціць і абвінаваціць "демократов", што "развалили Союз".

Аналягічнае рашэньне прынятае ў Расеі і пра вытворчасьць трактараў (тыпу беларускіх). Беларуская манаполія ды расейскі рынак збыту павінны скончыцца і тут. І па-свойму правільна, між іншым, робяць расейцы. У Маскве дурняў любяць.

Мар'ян Ванькевіч

# Прагматычна пра ўсходнюю палітыку

Толькі наіўны чалавек стане адмаўляць неабходнасьць прадуманае ўсходняе палітыкі для Беларусі. Мне ўжо даводзілася выказвацца пра невырашальныя праблемы беларускага дзеяча, які шчыра хоча адшукаць у пярэстым на першы пагляд расейскім палітычным спэктры сілы, вольныя ад імпэрскіх забабонаў і гатовыя на суседзкі дыялёг роўных з роўнымі. Нават Козыраў і людзі ягонага кола, уважаныя за дэмакратаў, выказваюцца аднаznачна: маўляў, нельга аддаваць справу абароны расейскамоўнай меншасьці ў суседніх краінах у рукі нацыянал-патрыётаў, г.зн. гэтую "абарону" - умяшаньне ў нутраныя справы суседзяў – яны пакідаюць у сваіх руках.

Мо' і сапраўды Беларусь мае заўжды чуйна і са страхам лавіць кожнае зварухненьне паветра ў крамлёўскіх лёхах як імпэратыў для сябе? Сумнаватая пэрспэктыва, але, па-мойму, не адзіная. Бясспрэчнаю сталася імклівая дэзінтэграцыя Расеі, перадусім на ўзроўні адміністрацыйных адзінак і – асабліва – былых і цяперашніх аўтаноміяў. Тут ня мейсца ацэньваць гэты працэс: мы яго не паскорым і не запаволім, дый наагул гэта клопат суседняе дзяржавы. Хіба толькі варта сказаць, што наступае непазьбежная расплата Расеі за імпэрскія грахі.

Ельцын пагадзіўся на стварэньне Рады кіраўнікоў рэспублік – суб'ектаў фэдэрацыі, і гэтая Рада адразу стала відавочнаю палітычнаю сілай. Рэспублікі маюць свае рахункі да маскоўскага цэнтру, абумоўленыя эканамічна два палітычна. Рэспублікі зацікаўленыя ў дывэрсыфікацыі сваіх вонкавых сувязяў. А сыравіна – праславутая сыравіна – ляжыць у нетрах аўтаноміяў. Нафта – у Комі, Татарстане, Башкарстане, Чачні, Ханты-Мансійскай акрузе (310 млн. т нафты і 30 млрд. куб. м газу штогод: тут знаходзіцца славуты Саматлор. Дарэчы, тут жа здабываецца больш як 11млн. куб. м прамысловай драўніны). Комі – гэта, акрамя нафты, і вугаль, і папера (Інта, Ухта, Варкута, Сыктыўкар). Добра вядомае й багацьце нетраў Саха-Якуціі, Карэліі.

Рэспублікі змагаюцца за самастойнасьнасьць досыць накіравана. Entente Татарстан – Башкартастан – Саха-Якуція ўпэўнена лідаруе ў гэтым змаганьні, а Татарстан у сваю чаргу вядзе рэй у Entente. Татарстан прыняў Канстытуцыю, правёў рэфэрэндум, склікаў Сусьветны кангрэс татараў. Старшыня ВС Татарстана Фарыд Мухаметшын вінаваціць Расею ў тым, што Татарстан ня змог падпісаць у мінулым годзе зь ёю дамову пра ўзаемнае дэлегаваньне паўнамоцтваў. Калі згаданая дамова з Расеяй так і ня будзе падпісаная, Татарстан адмовіцца браць удел у красавіцкім рэфэрэндуме, тым самым выразна засьведчыўшы сваю прагу да незалежнасьці. Казань перастае слухацца Масквы ў сьвятой справе нафтаздабычы і ўдвая (да 10 млн. т з 23 млн., запланаваных да здабычы) павялічвае экспарт нафты за межы Расеі. Аргумэнтацыя: "...Расея ад гэтага не зьбяднее. Бо павелічэньне паступленьняў у наш бюджэт дапаможа зьнізіць інвэстыцыі Расеі ў прадпрыемствы ВПК Татарстана".

Калі праву Башкартастана самому вызначаць аб'ём нафтапрадуктаў, вывезеных за мяжу, нешта будзе пагражаць, Башкартастан ужыве санкцыі супраць Цэнтру. Якуція прымае закон аб грамадзянстве, мае дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, закон аб нетрах. Карэлія разам зь іншымі аўтаноміямі запатрабавала перафармулёўкі артыкулу Фэдэратыўнае дамовы, дзе гаварылася, што зямля, вада, нетры, расьлінны й жывёльны сьвет зьяўляюцца "здабыткам" народу, які жыве на пэўнай тэрыторыі, і дамаглася-такі зьмены слова "здабытак" на слова "ўласнасьць". Карэлія заключыла дамову з Фінляндыяй. Нафтагазавы комплекс і лясныя рэсурсы Комі пераходзяць ва ўласнасьць рэспублікі. Да 10% здабываных рэсурсаў скарыстоўвае дзеля ўласнага інтарэсу Ханты-Мансійскага акругa. Урэшце, мэту стаць суб'ектам фэдэрацыі паставіла сабе Таймырская (Далгана-Ненецкая) аўтаномная акруга.

Акрамя Рады кіраўнікоў рэспублік, пакрысе ствараюцца й дзейнічаюць іншыя гарызантальныя структуры. Так, кіраўнікі расейскіх рэспублікаў паважна абмяркоўваюць ідэю эканамічнага зьвязу былых расейскіх аўтаноміяў (акрамя каўкаскіх). На двухбаковай аснове шчыльна супрацоўнічаюць Башкартастан, Татарстан, Марый Эл, Саха, Чувашыя etc. Асацыяцыя "Вялікая Волга" ўжо аб'ядноўвае 12 рэспублік і абласьцей Расеі ад Н.Ноўгарада да Астрахані. Апошні факт сьведчыць, што рэгіяналізацыя гіганцкай Расеі адбываецца ня толькі на ўзроўні былых нацыянальных аўтаноміяў, але й на ўзроўні этнічна расейскіх краёў і абласьцей.

Сымптаматычна, што пралічылі геапалітычныя варыянты і абралі кірунак дыпляматычна-эканамічнай актыўнасьці на ўсходзе нашыя балтыйскія суседзі. Згадайма капіталаўклады Літвы ў татарскія нафтапромыслы і ўкладаньні Татарстана ў рэканструкцыю Клайпедзкага порту, абмен парляманцкімі дэлегацыямі Літвы й Чачні, адкрыцьцё прадстаўніцтва Якуціі ў Латвіі і наадварот. Мэр Ханты-Мансійска прапаноўвае Вярхоўнаму Савету Латвіі распрацаваць сыстэму абапольна выгодных пагадненьняў. Ну, а эстонцы яшчэ пры камунізьме рэальна дапамагалі этнічна родным фіна-вугорскім народам – тым жа комі, марыйцам, мардве, удмуртам, мансі...

У Літве дзеля нагоды багата пісалі пра традыцыйныя повязі Вялікага Княства Літоўскага з татарамі. Відаць, балты маюць ня толькі гістарычную рацыю, але й спадзяюцца на практычныя карысьці. Бо ніякіх гарантыяў ад Расеі ня маем і мы. Міхаіл Шыманскі, карэспандэнт "Известий", піша: "Беларусь разумее, наколькі складаная сытуацыя са здабычай нафты ў Расеі і, як можа, усяляк намагаецца хоць нечым палегчыць гэты стан. Пацьверджаньне гэтаму – вельмі вытрыманая пазыцыя Беларусі, выкананьне ёю сваіх дамоўных абавязкаў перад расейскімі прадпрыемствамі. Але цяпер у рэспубліцы задаюць сабе пытаньне: хіба расейскія манаполісты-нафтаздабыўцы некіравальныя? Бо іхныя паводзіны зусім не ўмацоўваюць сяброўскіх дачыненьняў паміж Расеяй і Беларусьсю". Дык ці не ёсьць дэзінтэграцыя Расеі хоць нейкім спосабам дэманапалізацыі ўсходняга сыравіннага комплексу? Дарэчы, менавіта Башкартастан даў магчымасьць канцэрну "Белнафтагаз" выйсьці з газавага крызысу, што спасьціг у сьнежні нашую краіну. І выдатна, што Башкартастан мае пагадненьне зь Беларусьсю.

Ня трэ' баяцца магчымага гневу Масквы. Беларусі варта, а можа, і жыцьцёва неабходна, мадэрнізаваць сувязі з рэспублікамі Паволжа-Урала, Карэліяй, сібірскімі рэгіёнамі, захаваўшы там сваю эканамічную прысутнасьць. Напэўна, рэспублікі былі б удзячныя Беларусі за прызнаньне іхнага новага статусу. Урэшце, Беларусь для іх была й ёсьць адным зь нешматлікіх вокнаў у Эўропу. Так што выгода ад супрацоўніцтва – абапольная.

В.В.

P.S. Надасьпела зьвестка пра імкненьне Татарстану ўступіць у ААН. Аргумент неаспрэчны: чаму Беларусі і Украіне ў складзе СССР гэта дазвалялася, а Татарстану цяпер – не.

А сапраўды, чаму б і не?

## Дазвольце не пагадзіцца

# Ніцма – перад іншаземцам На свайго – звысака

За тыдзень да новага году на тэрыторыі Беларускага анімацыйнага цэнтру, якім кіруе Алег Белавусаў, зьявіўся намесьнік старшыні Першамайскага райвыканкама Аляксандар Новік. Зьдзіўленым супрацоўнікам цэнтру было паведамлена, што неўзабаве прыедзе кітайскі пасол, і прапанавана выйсьці таксама сустракаць яго.

Белавусаў, ашаломлены нечаканаю падзеяй, адмовіўся, зазначыўшы, што пасла не запрашаў і ня ведае, што яму тут трэба.

Аднак і Новік, і хутка падасьпелы пасол ведалі, што ім трэба. Яны па-гаспадарску агледзелі памяшканьне цэнтру (вуліца Калініна, 9), прыкідваючы, наколькі яно падыходзіць для разьмяшчэньня ў ім кітайскага пасольства.

Цэнтар узяў памяшканьне ў арэнду на шэсьць гадоў, заключыўшы дамову зь Першамайскім рана. Калі мы сапраўды імкнемся жыць у праўнай дзяржаве, як пра гэта любіць гаварыць наша кіраўніцтва, дык перш чым весьці ў чужы будынак староньняга чалавека, хай сабе і пасла, трэба было вырашыць у Гаспадарчым судзе, ці мае права рана скасаваць дамову, ці дастатковыя ў яго падставы, калі яно вырашыла зрабіць такі крок.

Тым больш што пры цэнтры адчынены дзіцячы лялечны тэатар і кінатэатар, а закон не дазваляе адчужаць памяшканьні, дзе працуюць дзеці.

Белавусаў літаральна падняў усіх на ногі, не мінаючы міністра замежных справаў П.Краўчанкі. Па словах кіраўніка цэнтру, Краўчанка выказаў у тэлефоннай размове зь ім шкадаваньне, што кітайскаму паслу быў прапанаваны "непрадуманы варыянт".

Здаецца, гісторыя гэтая завяршылася мірна, кожны застаўся пры сваіх інтарэсах. Аднак гэта далёка не прыватная гісторыя, і таму нельга задаволіцца толькі яе канстатацыяй. На жаль, за ёй бачацца пэўныя тэндэнцыі, якія цягнуцца яшчэ з савецкіх часоў.

Па-першае, гэта бесцырымоннасьць, зь якой у нас прывыклі абыходзіцца са сваімі людзьмі. Нідзе ў сьвеце, ці мала дзе, так зьняважліва ня ставяцца да сваіх грамадзянаў, як у нас. Асабліва калі трэба паказацца "добранькім" у вачох іншаземца.

І няўцям паслужлівым чыноўнікам, што гэта выклікае ў тых пагарду і да іх самых, бо хто ж будзе паважаць чалавека, які не паважае сам сабе, ня мае ўласнага й нацыянальнага гонару?

Па-другое, ня можа не выклікаць абурэньня і крывадушнасьць многіх высокапастаўленых чыноўнікаў. Гатовыя самі ўпасьці ніцма перад іншаземцамі, выкарыстоўваючы любую нагоду, каб зьезьдзіць за мяжу, яны тым ня менш любяць папракаць іншых, што тых быццам бы "купілі", пераўтварылі ў "агентаў уплыву" і г.д. Калі ня самі пра гэта кажуць, дык адданыя ім сродкі друку. Успомнім хаця б выступ "Советской Белоруссии" наконт навукова-практычнае канфэрэнцыі праведзенай БНФ разам з амэрыканскім фондам Крыбла.

А калі хто-небудзь з Апазыцыі БНФ выяжджае за мяжу, дык нават у кулюарах парляманту можна пачуць: "Цікава, а за чые сродкі?"

Чамусьці, калі едзе нехта зь іншага аб'яднаньня дэпутатаў, такога пытаньня не задаюць.

Альбо калі Вярхоўны Савет адхіліў рэфэрэндум, у тых жа парляманцкіх кулюарах і за іх межамі можна было пачуць, як нехта абурана гаварыў: "Гэта ж трэба, Пазьняк панёс заяву апазыцыі ў амэрыканскае пасольства".

Ці хто пры гэтым прысутнічаў? Ці можа, ішоў за Пазьняком сьледам?

Абвінавачваюць Пазьняка і ў тым, што ў НАТО пабываў.

Між тым, у НАТО шмат ужо беларускіх дэпутатаў пабывала, у тым ліку і вайсковых. І нічога, гэта называлася – наладзіць кантакты, усталяваць узаемаразуменьне, дасягнуць пагадненьня.

Але ім можна, а апазыцыі – нельга. Так яшчэ за Сталінам было: за мяжу выпускалі толькі тых, хто прапагандаваў афіцыйную палітыку. Калі ж нехта цікавіўся замежным досьведам сам па сабе, гэта кваліфікавалі як "низкопоклонство перед Западом" і садзілі ў турму.

І ў той жа час паддобрываліся перад прыежджымі іншаземцамі, расчыняючы лепшыя гатэлі, куды звычайнага савецкага грамадзяніна і на парог не пускалі, выстаўляючы самыя далікатэсныя стравы, пра якія большасьць савецкіх грамадзян ня мела ўяўленьня.

Тое ж самае цяпер. Няма чаго суцяшаць сябе, што ў нас усё карэнным чынам зьмянілася. Іншаземцу ў нас па-ранейшаму больш утульна, чым свайму чалавеку (простаму сьмяротнаму, безумоўна, а не начальніку). Ён цяпер можа прыехаць да нас, у суверэнную Беларусь, нават бяз выкліку, заплаціўшы ў аэрапорце 40 даляраў за візу.

А куды бяз выкліку й бязь візы можам паехаць мы з суверэннай Беларусі?

Больш таго, мы нават ня маем свайго пашпарта, хаця было абяцана, што зь 1 студзеня 1993 года яго пачнуць выдаваць.

І вось абвешчана перарэгістрацыя савецкіх замежных пашпартоў, дзе будзе рабіцца паметка, што іхныя ўладальнікі - грамадзяне Беларусі.

Хоць бы пасаромеліся перад сьветам за такое "вынаходніцтва". А, можа, яно невыпадковае? Бо калі ў Вярхоўным Савеце абмяркоўваліся, напрыклад, званьні ў беларускім войску, адзін дэпутат сказаў: а навошта ўводзіць новыя (маецца на ўвазе – спрадвечна беларускія), калі неўзабаве ўсё вернецца да ранейшага?

Дык, можа, і ў выпадку з пашпартамі спадзяюцца, што новыя так і не спатрэбяцца? Вось жа свой, беларускі закон пра ўезд і выезд прайшоў ўсё яшчэ толькі першае чытаньне а жывем мы паводле закону краіны, якой ужо няма, і які тым ня менш на тэрыторыі Беларусі ўступіў у сілу... зь 1 студзеня 1993 году.

Памятаецца, зь якой ахвотай нашы кіраўнікі любілі гаварыць, колькі краінаў прызналі Беларусь, колькі - дыпляматычныя дачыненьні зь ёю ўсталявалі, адчынілі пасольствы ў Менску. А ці бліжэй сталі мы да сьвету ад усяго гэтага? Нічога па сутнасьці не зьмянілася.

*Працяг на восьмай старонцы*




196

